

№ 20 (133)
Май 2006 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:



## Палянка жыве і будзе жыць

**У «КГ» № 16 за красавік 2005 г. мы апублікавалі матэрыял Уладзіміра Шулякоўскага «Палянка яшчэ не загінула», у якім расказваецца пра драматычны лёс вёскі Палянка Смалявіцкага раёна. У час вайны яна была спалена фашыстамі, а жыхары толькі выпадкова пазбеглі жудаснага лёсу жыхароў Хатыні. Пасля вайны вёска адрадзілася, але па віне абыякавага чыноўніка яе назва знікла і была заменена на Паддубнае.**

**І вось працяг гэтай тэмы.**

Апоўначы ў маёй кватэры раздаўся тэлефонны званок. Пачуў у трубцы ўсхваляваны голас Леаніда Маліноўскага, пра якога расказвалася ў маім артыкуле. «Хоць і занадта позна ўжо, – сказаў Леанід, – але не змог стрымацца і дзялюся радаснай весткай. Тое, чаго мы так упарта дамагаліся апошнія тры гады, нарэшце здзейснілася. Тапанімічная камісія Савета Міністраў вярнула нашай вёсцы яе спрадвечную назву – Палянка».

Вялікій дзякуй «Краязнаўчай газеце», а таксама газеце «Звязда» за тое, што падтрымалі гэтую сваю справу.

Без вяртання гістарычных назваў, як без роднай мовы і культуры, немагчыма існаванне нацыі, існаванне дзяржавы.

**Уладзімір ШУЛЯКОЎСКІ**

## Дзеравянчыцы – Бракава

### Гістарычнае суседства

***Далёка не ўсе чытачы ведаюць, што ў ваколіцах горада Слоніма некалі быў маёнтак з назвай Дзеравянчыцы, побач з якім месцілася яго адвечная спадарожніца – вёска Бракава. Прапануем вашай увазе невялікі аповед з гісторыі гэтых двух мясцін.***

### Тапаніміка

Назва маёнтка, а зараз – вёскі Дзеравянчыцы – паходзіць ад асновы «дрэва», указвае на тое, што ў старажытнасці (як, зрэшты, і цяпер) гэта мясцовасць была даволі лясістая. Накопт жа паходжання назвы Бракава цікавую легенду нам распавяла мясцовая жыхарка Валянціна Антонаўна Мацвеева:

– Бракава носіць такую назву таму, што раней тут жылі прыгонныя людзі. Дзеравянчыцкі гаспадар што хацеў, тое з імі і рабіў. А аднойчы, калі яны не падпарадкаваліся, ён наогул збракаваў іх са свайго спіса і перасяліў на кепскія землі. Гэты бракаваны люд застаўся тут жыць, ад чаго ўтварылася вёска Бракава.

*(Заканчэнне на стар. 6)*

***Чалавек нараджаецца, каб запаліць у Сусвеце зорку ці пакінуць на зямлі след.***

**Іван ПТАШНІКАЎ**

## 620-годдзе Верхнядзвінска,



## або 620 гадоў Дрысы

***Сёлета – 620 гадоў ад першай летапіснай згадкі старажытнай Дрысы, якая цяпер называецца Верхнядзвінскам. З гэтай нагоды 27 мая пройдзе свята горада, на якое збяруцца ягоныя жыхары, насельнікі раёна, з'едуцца людзі, народжаныя тут, але якія цяпер жывуць у іншых месцах.***

Лёсы паселішчаў падобныя да людскіх, але ёсць у іх жыцці факты, што могуць напачатку збіць з панталыку. Дзень народзінаў беларускай сталіцы мы адзначаем у звязку з... разбурэннем. Гэткі ж лёс і ў Верхнядзвінска-Дрысы. У 1386 годзе полацкі князь Андрэй падчас міжусобных войнаў спаліў паселішча Одрысь. Што і стала першай летапіснай згадкаю. Як бы – дзень нараджэння. Дарэчы, якраз у сённяшнім нумары ў «Малой краязнаўчай энцыклапедыі» змешчаны артыкул пра гэты старажытны горад.

Тут жа хочацца працытаваць урывак з артыкула старшыні секцыі тапанімікі Геаграфічнага таварыства Раісы Аўчыннікавай пра гісторыю назвы Дрысы:

*Цякла з возера ў возера рэчка, якую мясцовыя насельнікі так і называлі «азёрная», або на сваёй старажытнай паўночна-еўрапейскай мове – Дрыса. Было гэта больш за тры з паловай тысячы гадоў таму. Пазней на рацэ пры яе ўпадзенні ў больш магутную Дзвіну ўзнікла паселішча, і яго таксама назвалі Дрыса. Даўно сцёрліся сляды плямёнаў старажытных рыбаловаў і паляўнічых, а назва засталася. Праўда, цяпер разумеюць яе толькі спецыялісты па геаграфічных назвах, тапаністы. І вось камусьці, не вельмі дасведчанаму ў пытаннях тапанімікі, назва падалася немілагучнай і абразлівай, таму яе замянілі ў 1962 годзе на Верхнядзвінск. І гэтым вельмі сказілі першапачатковую адрасную і інфармацыйную функцыю назвы паселішча. Па-першае, у назве замянілі арыенцір з адной ракі на другую. Па-другое, такая назва супярэчыць законам логікі і геаграфіі. Рака Заходняя Дзвіна ад вытокаў да вусця мае 1020 км. А горад стаіць у сярэднім цячэнні за 392 км ад упадзення ў Балтыйскае мора. Да Верхняй Дзвіны болей за 600 км. Так што болей правільна лічыць горад Сярэднядзвінскам. А ў вярхоўях Заходняй Дзвіны існуе райцэнтр з такой жа назвай Заходняя Дзвіна. Яго імя таксама мянялі некалькі разоў. Да 1963 году ён быў Акцябрскам. Акцябрскаў у СССР было сотні, таму ніхто не пярэчыў вяртанню назвы нават у развітыя савецкія часы. Як бачым гарады, таксама як вуліцы і плошчы, часта мяняюць свае імёны.*

*Але вядомы і такія прыклады. Так раку Яік, на якой адбылося паўстанне Пугачова, перайменавалі ва Урал. У Беларусі ў савецкія часы перафарбавалі назву вядомага палескага Жыд-возера на Чырвонае. Маўляў, старая назва абразлівая для яўрэяў. Незразумела чыноўнікам, што тая ж аснова ЖД-/ЖТ- і ў назвах Жодзінкі, Жадунькі, Вітажэткі і ў назве возера Охват-Жадзенне, праз якое працякае ў вярхоўях Заходняя Дзвіна, падобныя назвы ёсць у Бельгіі – Гранд Жэт і Пціт Жэт. Значэнне асновы простае – «вада». Прыкладна тое самае «вада, возера» азначае і гідранімічны корань ДР- у назве Дрысы. Яго маюць сотні гідронімаў – Дрывяты, Дрысвяты, Драй, Друйка, Друць, Дрозка, Дрэсна, Дрэтунь, Удра на Беларусі, у Заходняй Еўропе – Драва, Дроні, Дрын, Дрына, Одра, у Афрыцы – Драа і іншыя. Ну чым абразлівая назва горада Дрэздэна, ці Друскенікаў у Літве? Нічым! А вось назва Дрыса (гістарычныя варыянты Дрыза, Дрызь) быццам бы немілагучная. Разуменне, што гэта проста назва часткі прыроды, а ў прыроды няма нічога абразлівага, павінна прыйсці рана ці позна і да спецыялістаў, і да адміністратараў.*

*Назва горада ўтворана ад назвы ракі, ракі – ад назвы возера Дрысы на Расоншчыне, з якога пачынаецца яе шлях.*

*Такім чынам назва ракі Дрысы лёгка этымалагізуецца – «рака, якая выцякае з возера». Канчатак -А склаўся ў назве дзякуючы апелятыву РАКА жаночага роду. Так што першасная назва горада была інфармацыйнай і празрыстай – «горад, які стаіць на рацэ, якая выцякае з возера». Цікава, што азвончылі першы гук гідроніма славяне, фіна-ўгорскім мовам не характэрны першы звонкі зычны і збег зычных напачатку слова. Таму можна рэканструяваць гістарычную назву возера як ТЫРСЫ, што вельмі нагадвае назву вядомага ўшацкага возера ТУРАСЫ. Успомнім назвы і двух азёр Матырына. Гістарычныя варыянты назвы горада Дрыза і Дрызь сведчаць, што пад славянскім уплывам азванчаўся і канчатак, але гэты варыянт не прыжыўся. Вось такая простая гісторыя назвы адной звычайнай азёрнай ракі.*

Такая вялікая вытрымка з артыкула – дзеля высвятлення тлумачэння значэння спаконвечнай назвы горада-юбіляра. І, можа быць, найлепшым помнікам заслугаў гораду было б вяртанне гістарычнай назвы. 620-годдзе – цудоўная для таго нагода.

Раённае кіраўніцтва шануе сваю гісторыю, дбае, каб пра яе ведалі не толькі жыхары горада, таму выдае кнігі (хаця б і невялікія паводле аб'ёму) пра сваю радзіму. Так, нядаўна выйшлі календар на 2005 і 2006 гады «Храмы Верхнедвинщины», «Верхнедвинский район». Шкада, толькі на рускай мове.

**Уладзімір ПУЧЫНСКІ**

*(Заканчэнне тэмы на стар. 2)*

# Знойдзена магіла дзеда Максіма Багдановіча

У Чэрвені на старых могілках мясцовы краязнаўца Уладзімір Дарагуш знайшоў магілу дзеда Максіма Багдановіча Апанаса Мякоты. Прывёў яе ў парадак, прачытаў даты жыцця і смерці і знайшоў недакладнасці. Паміж сапраўднай датай смерці дзеда Багдановіча, пазначанай на магільным камені, і той, што згадваецца ў літаратуры, розніца – адзін год.

Да прыкладу, у кнізе «Дарогай Максіма Багдановіча» Алесь Бачыла піша: «У ноч на 24 студзеня 1879 года Апанас Мякота памірае, пакінуўшы сіротамі пяцярых дзяцей». А на камені высечана: «Прах раба божиего Афанасия Ивановича Мякото. Умер 1878 года, 12 января».

Вось як гэту недакладнасць тлумачыць краязнаўца Уладзімір Дарагуш.

«Па-першае, дата «12 января», – гаворыць ён. – Зразумела, гэта юліянскі каляндар, а Бачыла перавёў у новы стыль. Ён аднаго не ведаў, напэўна, што ў XIX стагоддзі розніца паміж старым і новым стылем была не 13 дзён, а 12. Гэта 24 студзеня. Год таксама няправільна пазначаны, разыходжанне на цэлы год».

Алесь Бачыла сваю кнігу пісаў па ўспамінах Ганны Грازновай, малодшай пляменніцы маці Багдановіча, яна магла і памыліцца. Спадар Дарагуш лічыць, што больш варты даверу надпіс на магільным камені, чым памяць пляменніцы.

*(Паводле інфармацыі Радыё Свабода)*



Колькі яшчэ загадак хаваюць старыя клады? Фота зроблена на могілках в. Войстам Смаргонскага раёна

# Сучасныя беларускія краязнаўцы

## Матэрыялы да слоўніка

**Станішэўскі** Вячаслаў Мікалаевіч (н. 24.01.1932, с. Козьміна Ленскага р-на Архангельскай вобл., Расія), кандыдат тэхнічных навук (1962). Скончыў Беларускі палітэхнічны інстытут (1954). Краязнаўствам займаецца з 1972 г. Настаўнікамі лічыць М.М. Улашчыка і маці А.Ю. Станішэўскую. Вывучае радаводы сем'яў Станішэўскіх і Улашчыкаў. Вядзе пошук продкаў мастака К. Малевіча.

Тв.: Родословная Станишевских. Мн., 1997; Радавод сям'і Улашчыкаў. Мн., 2001.

**Суднік** Станіслаў Вацлавіч (н. 21.09.1954, в. Сейлавічы Нясвіжскага р-на Мінскай вобл.), рэдактар газ. «Наша слова» (з 1997г.). Скончыў Мінскае вышэйшае зенітнае ракетнае вучылішча супрацьпаветранай абароны, Цвярскую камандную акадэмію імя маршала Савецкага Саюза Г.К. Жукава. Настаўнікам у краязнаўстве лічыць Ф. Янкоўскага. Займаецца лінгвістычным краязнаўствам, гісторыяй роднай вёскі. Рэдактар краязнаўчага часопіса «Лідскі летапісец».

# У прыроды чыстае сэрца

***Кожнае прозвішча мае цікавую і непаўторную гісторыю. Яно ў чалавека, як пах у кветкі. Натхненне і цяга да прыроды прысутнічаюць у душы людзей, бо гэта натуральна. І калі мы сустракаем «лясныя», «палявыя» і іншыя прозвішчы, то здаецца, што людзі, якія валодаюць імі, чысцей і святлей за іншых. Японскі пісьменнік Хідэо Агумана казаў: «У прыроды чыстае сэрца».***

Ёсць меркаванне, што раней маім прозвішчам называлі цэлую вёску. Яе жыхары былі надта спрытныя ў справах. Гэта жаданне жвава рухацца, каб хутчэй зрабіць справы, засталося і ў іх нашчадкаў. А як уплывае «лясное» прозвішча на характар і жыццё студэнтаў ВНУ, я вырашыла пацікавіцца ў іх саміх.

*Наталля Трусава, БДЭУ:*

– Я лічу, што прозвішча не ўплывае на жыццё, на характар. Мы – гаспадары свайго лёсу.

*Алена Бобрык, ВДМУ:*

– Прозвішча адыгрывае асабліва важную ролю ў жыцці. На маю думку, яно можа развіць у чалавека як выдатныя якасці, так і комплексы. Калі вучылася ў школе, аднагодкі здзекваліся з мяне, называлі бабром. Аднаго разу ў КВЗ паказвалі жарт пра бабра, а пасля сябры пры сустрэчы яго ўспаміналі, але па-добраму. А я больш на іх не крыўдавала.

*Алена Беразоўская, БДУ:*

– Безумоўна, прозвішча пакідае адбітак на чалавечай душы. Па прозвішчы сустракаюць людзей таксама. Мяне заўсёды называюць вельмі ласкава – бярозка, як мне здаецца, у імя самага прыгожага дрэва.

*Дзяніс Сакалоўскі, БНТУ:*

– Не мае значэння, як цябе называюць (хоць крэслам, каб толькі на табе не сядзелі!). Але, калі чалавека выбіраюць, прозвішча зробіць апошні крок у той ці іншы накірунак.

*Таццяна Волкава, БДУ:*

– Прозвішча не звязана з характарам, паводзінамі чалавека. Сваім прозвішчам я ганаруся, бо яно вельмі прыгожае, старадаўняе. З імя нават звязана легенда: мой далёкі продак быў збеглым катаржнікам, хаваўся ўсё жыццё ў лесе, як воўк.

*Віктар Грыб, БНТУ:*

– У школе ў мяне была настаўніца, якая казала, што прырода – гэта асцярожны і чуйны сябар. Да майго прозвішча ставілася гэтакжа. Заўсёды казала, каб я не саромеўся, а ганарыўся. А калі ў вераснi з бацькамі ў лесе збіраем грыбы, то мне трапляюцца толькі баравікі. За гэта мяне празвалі Баравічком.

У мяне толькі такое пажаданне: давайце ісці нараўне з прыродай. Прапаную зрабіць мажлівае і немажлівае, каб і ў нас было чыстае сэрца. Па шчаслівым лёсе першы крок да гэтага ў многіх зроблены.

*Ірына ЗАЯЦ,*
*студэнтка журфака БДУ*

*Сяргей ПАНІЗЬНІК*

## Слова пра Одрыса Харобрага[1]

У 1386 годзе замак летапіснага горада Одрысь (Дрыса, Одрьск – ?) быў спалены Андрэем Полацкім у час міжусобнай вайны. З 1962 года Дрыса перайменавана ў г. Верхнядзвінск.

*– Любоў мая не помніцца.*
*І гневаецца Полацак.*
*Дарога – не услон:*
*мячамі поле полецца,*
*у неба коп'і коляцца...*
*Напярэдзе – палон.*
*Ратуйся, раць услужная:*
*з цапамі харалужнымі*
*ідзе мая бяда.*
*Мае магуты мужныя!*
*Шляхі да славы скрушныя,*
*астужнаю – вада.*
*Быў крывічом адчайным я,*
*а буду палачанінам,*
*а потым – ліцьвіном*
*Мой лёс? Ён не прычалены:*
*спадар я, падначалены...*
*То волат, а то гном.*

* * *

*І не Андрэя конніцу*
*напоіць памяць Полацка, –*
*а тых, хто будзе жыць,*
*чый конь не рассупоніцца...*
*І Беларусь – нястомніцай –*
*пачне вякам служыць.*
*Вякам – шчыты чарлёныя*
*і шоламы калёныя,*
*зялезный зброі звон.*
*Свабода ёсць хвалёная,*
*як Дрыса замутнёная...*
*І воля ёсць – палон.*

*Паклон палону Полацка.*
*Іду цяпер не вобмацкам.*
*А замак? Памянём.*
*Хто помніць,*
*той і помніцца.*
*Радзіма – гэта Поўніца,*
*налітая агнём.*

*Глыну я чашы... Горача...*
*Гісторыя – на горычы,*
*усе – на забыцці.*
*Але не перайначана!*
*І я ўвесь – ваша спадчына.*
*А спадчына – не мачына:*
*падмурак у жыцці.*

[1]Балцкае слова «дряса» перакладаецца як «смеласць, хаюбрасць, адвага»

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

Ф.СП-1

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63320** (індэкс выдання)

**Краязнаўчая газета** Колькасць камплектаў

на 200_ год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____ (паштовы індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літар

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету **63320** (індэкс выдання)

**Краязнаўчая газета**

| Кошт | падпіскі | ________руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ________руб. | |

на 200_ год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____ (паштовы індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозвішча, ініцыялы)

# Беларуская маці-патрыётка ўзнагароджана ордэнам Пятра Вялікага



***Рашэннем Прэзідыума Акадэміі праблем бяспекі, абароны і правапарадку Расійскай Федэрацыі жыхарка горада Жодзіна Анастасія Фамінічна Купрыянава пасмяротна ўдастоена ордэна Пятра Вялікага І ступені.***

Анастасія Фамінічна Купрыянава – ганаровы грамадзянін горада Жодзіна, маці-патрыётка, удзельніца партызанскага руху, пяць сыноў якой загінулі, абараняючы Радзіму ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Малодшы, Пётр Купрыянаў, здзейсніў подзвіг Аляксандра Матросава і быў удастоены звання Героя Савецкага Саюза.

Ордэн Пятра Вялікага – адна з найпрэстыжнейшых грамадскіх узнагарод Расіі. Яна прысуджаецца суб'ектам федэрацыі, гарадам, арганізацыям, прадпрыемствам, а таксама грамадзянам за выдатныя заслугі перад Айчынай. Гэтым ордэнам узнагароджаны сотні грамадзян за самаадданыя ўчынкі, мужнасць, адвагу і гераізм, праяўленыя пры выкананні воінскага, службовага і грамадзянскага абавязку.

Анастасіі Фамінічны Купрыянавай ужо няма сярод жывых, аднак у горадзе засталіся яе дзеці, унукі. Узнагарода ўручана малодшаму з сям'і – праправнуку Івану Альшэўскаму. Узнагароджванне адбылося ў Дзень Перамогі 9 мая ля манумента ў гонар маці-патрыёткі А.Ф. Купрыянавай. На святочнай цырымоніі прысутнічалі прадстаўнікі Акадэміі праблем бяспекі, абароны і правапарадку Расійскай Федэрацыі, гарадскія ўлады, а таксама родныя ўзнагароджанай.

Анастасія Фамінічна Купрыянава – адна з нямногіх жыхароў Беларусі, узнагароджаных ордэнам Пятра Вялікага І ступені. Жодзінцы ганарацца сваёй землячкай.

***Галіна АНІСКЕВІЧ,***
***кіраўнік рабочай групы па стварэнні гарадскога краязнаўчага музея***

*Кароткі слоўнік*

# краязнаўча-прававой тэрміналогіі

*беларускай старажытнасці*



**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**ПРАВА** – а) сістэма абавязковых сацыяльных норм у ВКЛ, што ўстанаўліваліся і ахоўваліся дзяржавай згодна Статуту. Права прадугледжвала прывілеі магнатаў, іх уласнасць на зямлю, а таксама саслоўную няроўнасць, асабістую залежнасць селяніна ад феадала. Яно было звычаёвае (паводле даўніх норм на раннім этапе ВКЛ) і пісанае (гэтае замацавалася ў XVII ст.). Статуты ВКЛ адрознівалі кананічнае (духоўнае) і свецкае права. Да апошняга ў XVI ст. пачалі адносіцца земскае і гарадское (паводле магдэбургскага права) і міжнароднае. Земскае (агульнадзяржаўнае) права складала аснову свецкага і рэгулявала большасць грамадскіх адносін; магдэбургскае вызначала статус, прывілеі гарадоў і іх насельнікаў; нормы міжнароднага рэгулявалі адносіны ВКЛ з іншымі краінамі;

б) мера магчымых паводзін, дакладна вызначаная юрыдычная свабода. У гэтым сэнсе Статут вызначаў «вольности и права» шляхты, права на валоданне маёмасцю і інш.;

в) суд, судаводства.

**ПРАВА ГАРАЧАЕ** – назва ў ВКЛ крымінальнага злачынства, з моманту ўчынення якога не прайшло 1 года і 6 тыдняў.

**ПРАВА СКЛАДА** – згодна Статута ВКЛ адзін з прывілеяў, што абавязваў прыезджых купцоў (гасцей) гандляваць сваімі таварамі ў пэўным горадзе на працягу пэўнага часу. У гэты тэрмін вывозіць тавары ў іншыя месцы дазвалялася толькі ў тым выпадку, калі ў абумоўленым не знаходзіўся пакупнік. Тавары адпускаліся оптам (для кожнага з іх былі свае меры вагі і назвы). Права склада замацоўвала эканамічнае панаванне купецтва ў гарадах.

**ПРАКУРАТАР** (з лац.) – прафесійны юрыст-паверaны ў ВКЛ, які вёў адвакацкую практыку. Яго абавязкі мог выконваць толькі шляхціц, які ведаў мясцовае права і быў дапушчаны судом да адвакацкай дзейнасці. За парушэнне закону пракуратара чакала строгая кара. Для беднага люду ён выконваў свае абавязкі бясплатна.

**ПРАПІНАЦЫЯ** (ад лац. здравіца) – выключнае права феадалаў ВКЛ і Польшчы на вытворчасць і продаж спіртных напояў. Яно пераходзіла ў спадчыну. Бровары былі амаль у кожным магнацкім двары і выраблялі гарэлку, піва, медавуху і інш. Шляхта займацца гэтай справай лічыла ганебным, таму звычайна шынкі здавала ў арэнду. Арандатары-шынкары мелі шанец нажывацца ад продажу спіртных напояў, а таксама эксплуатаваць беднату, адпускаючы ёй піцво ў доўг (напрыклад, на вяселле, хрэсьбіны, памінкі і інш.). Прапінацыя была адной з форм закабалення сялян.

## *Праграма заключных мерапрыемстваў IV Рэспубліканскага фестывалю фальклорнага мастацтва «Берагіня»*

**Красавік – чэрвень 2006 г., г.п. Акцябрскі**

**19–20 красавіка**
III Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Традыцыйная культура і дзеці: праблемы этнавыхавання»
Цэнтр вольнага часу
*Пачатак 19 мая а 14 гадзіне*

**15–22 мая**
Тыдзень фальклорных відэафільмаў
Кінатэатр імя Бумажкова
*Адкрыццё 15 мая а 16 гадзіне*

**16 мая – 14 чэрвеня**
«Майстры і вучні». Выстава твораў студэнтаў і выкладчыкаў кафедры народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва факультэта традыцыйнай беларускай культуры і сучаснага мастацтва Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў
Карцінная галерэя
*Адкрыццё 16 мая ў 14.30*

**1 чэрвеня** (чацвер)
**14.30** Адкрыццё выставы «Берагіня» ў прасторы і часе» фотажурналіста беларускай газеты «Звязда» Яўгена Пясецкага
*Цэнтр вольнага часу*
**16.00** Прэс-канферэнцыя
*Райвыканкам*
**17.30** Канцэрт-прэзентацыя ўдзельнікаў заключных мерапрыемстваў IV Рэспубліканскага фестывалю фальклорнага мастацтва «Берагіня»
*Гарадскі парк*
**19.00** Адборачны тур конкурсу танцавальных пар – выканаўцаў народных побытавых танцаў
*Цэнтр вольнага часу*

**2 чэрвеня** (пятніца)
**8.00** Лабараторыі па народным танцы і традыцыйных спевах
Праводзяць Сяргей Выскварка (г. Любань), Валянціна Літвінава (г. Расоны), Таццяна Пладунова (г. Мінск)
*Цэнтр вольнага часу*
**10.00** Адкрыццё Другога рэспубліканскага турніру фальклорных калектываў
Прэзентацыя канцэртных праграм (*дзіцячыя калектывы)*
*Гарадскі парк*
**12.30** Адкрыццё Першага рэспубліканскага турніру салістаў – выканаўцаў твораў народнай спадчыны
Конкурсная праграма (*моладзь)*
*Намінацыі:* «Абрадавая песня», «Найгрыш», «Народная проза»
*Гарадскі парк*
**15.30** Праграма «Дэкаратыўна-побытавае мастацтва» (*калектывы, салісты).*
*Намінацыі*: «Выраб з саломы», «Традыцыйная вышыўка», «Выраб пояса», «Выразанне выцінанкі»; «Прэзентацыя выставы» (хатняе заданне).
Выступленне фальклорных калектываў Акцябрскага раёна («Рудабельскія зорачкі», «Вясніца», дзіцячы садок № 3) і гурта «Кроса» Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў
*Гарадскі парк*
**18.30** Конкурс танцавальных пар – выканаўцаў народных побытавых танцаў – 1/2 фінала, фінал (*дзеці, моладзь)*
*Гарадскі парк*
**19.00** Выступленне калектываў – гасцей фестывалю ў вёсках Акцябрскага раёна
**20.00** Прэзентацыя канцэртных праграм (*маладзёжныя калектывы)*
*Гарадскі парк*

**3 чэрвеня** (субота)
**8.00** Лабаторыі па традыцыйных спевах і дэкаратыўна-побытавым мастацтве (выцінанка)
Праводзяць Ларыса Рыжкова (г.п. Міханавічы), Наталля Сухая (г. Мінск)
*Цэнтр вольнага часу*
**9.30–13.00** Турнір салістаў (*дзеці)*
*Намінацыі:* «Абрадавая песня», «Найгрыш», «Народная проза»
*Гарадскі парк*
**15.00–17.00** Праграма «Харэаграфічнае мастацтва» (*дзіцячыя, маладзёжныя калектывы)*
*Намінацыя* «Калектыўная творчасць» (карагод, кадрыля)
*Гарадскі парк*
**17.00–19.00** Праграма «Музычнае мастацтва» (*дзіцячыя, маладзёжныя калектывы)*
*Намінацыі:* «Народная песня», «Інструментальная музыка»
*Гарадскі парк*
**20.00** Канцэрт калектываў – гасцей фестывалю з Расіі, Украіны, Польшчы, Латвіі, г. Мінска
*Цэнтральная плошча*
**22.30** Маладзёжная фальклорная танцавальна-забаўляльная вечарына
*Цэнтральная плошча*

**4 чэрвеня** (нядзеля)
**9.30** Круглы стол па выніках фестывалю
*Цэнтр вольнага часу*
**11.00** Свята народных мастацтваў Рудабельскага краю:
- Выставы-продажы вырабаў дэкаратыўна-побытавага мастацтва
- Творчыя майстэрні «Носьбіты і пераемнікі»
- Выступленне аўтэнтычных гуртоў і дзіцячых фальклорных калектываў
- «Народная гульнятэка»
- «Вандроўныя музыкі»

*Гарадскі парк*
**13.00** Відовішча-шэсце ўдзельнікаў фестывалю
*пл. Партызанская – вул. Савецкая – гарадскі парк*
**13.30** Цырымонія ўзнагароджання ўдзельнікаў заключных мерапрыемстваў IV Рэспубліканскага фестывалю фальклорнага мастацтва «Берагіня».
Заключны канцэрт
*Гарадскі парк*

## *Экспертны Савет IV Рэспубліканскага фестывалю фальклорнага мастацтва «Берагіня»*

**ВАРФАЛАМЕЕВА Тамара Барысаўна** (г. Мінск),
старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, вядучы навуковы супрацоўнік лабараторыі традыцыйнага мастацтва Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры, сябра Саюза кампазітараў Беларусі, кандыдат мастацтвазнаўства – *старшыня экспертнага Савета;*

**ДУДЧАНКА Мікалай Рыгоравіч** (г. Мінск),
балетмайстар-пастаноўшчык Дзяржаўнага акадэмічнага харэаграфічнага ансамбля «Харошкі» Рэспублікі Беларусь. Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь – *кіраўнік групы экспертаў па народнай харэаграфіі;*

**КАВАЛЁЎ Аляксандр Іванавіч** (г. Мінск),
загадчык кафедры народных інструментаў, дацэнт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка, кандыдат педагагічных навук – *кіраўнік групы экспертаў па народным музычным мастацтве;*

**ПІСКУН Юрый Аляксандравіч** (г. Мінск),
дацэнт кафедры касцюма і тэкстылю Беларускай акадэміі мастацтваў, сябра Беларускага саюза мастакоў – *кіраўнік групы экспертаў па народным дэкаратыўна-побытавым мастацтве*;

**БОГАНЕВА Алена Міхайлаўна** (г.Мінск),
загадчык лабараторыі традыцыйнага мастацтва Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры – *кіраўнік групы экспертаў па народнай прозе.*

### *Сябры экспертнага Савета:*

**АБРАМОВІЧ Антаніна Анатольеўна,**
музычны кіраўнік лаўрэата міжнародных і рэспубліканскіх фестываляў народнай творчасці ўзорнага фальклорнага гурта «Берагіня» Мётчанскай адукацыйна-выхаваўчай установы «Школа-садок» Барысаўскага раёна Мінскай вобласці;

**ГАДОЎСКІ Уладзімір Міхайлавіч** (г. Роўна, Украіна),
загадчык кафедры харэаграфіі Ровенскага дзяржаўнага гуманітарнага універсітэта, прафесар, кандыдат педагагічных навук;

**ГАМБАЛЕЎСКАЯ Валянціна Феадосьеўна** (г.Мінск),
загадчыца аддзела музычна-харэаграфічнаай творчасці Нацыянальнага цэнтра мастацкай творчасці дзяцей і моладзі;

**КАЛАЦЭЙ Вячаслаў Віктаравіч** (г. Мінск),
дэкан факультэта традыцыйнай беларускай культуры і сучаснага мастацтва, дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў, кандыдат культуралогіі;

**КУХАРОНАК Таццяна Іванаўна** (г. Мінск ),
старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, этнограф, кандыдат гістарычных навук.

**ЛАТУШКА Дар'я Яўгенаўна** (г. Мінск),
артыстка балета Дзяржаўнага акадэмічнага харэаграфічнага ансамбля «Харошкі» Рэспублікі Беларусь;

**ЛАБАЧЭЎСКАЯ Вольга Аляксандраўна** (г. Мінск),
вядучы навуковы супрацоўнік лабараторыі традыцыйнага мастацтва Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры, кандыдат мастацтвазнаўства;

**СВЯРДЛОЎ Пятро Іванавіч** (г. Гомель),
дырэктар дзіцячай харэаграфічнай школы г. Гомеля, мастацкі кіраўнік заслужанага аматарскага вакальна-харэаграфічнага калектыва «Гомій» установы культуры «Гарадскі цэнтр культуры», заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь;

**СУХАЯ Наталля Аляксандраўна** (г. Мінск),
кіраўнік секцыі выцінанкі Беларускага саюза майстроў народнай творчасці, вядучы метадыст па рамёствах і промыслах Дзяржаўнай установы «Мінскі абласны цэнтр народнай творчасці»;

**СУША Галіна Аркадзьеўна** (г. Мінск),
старшы навуковы супрацоўнік аддзела народнай творчасці Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры, сябра Беларускага саюза журналістаў і Беларускага саюза майстроў народнай творчасці.





***«Ёсць у паэта свой аблог цаліны, някрануты прастор для баразён, дзе ён працуе з першае хвіліны і да канца апошніх вечаровых дзён...»***

***Гэтыя гранічна строгія радкі Аркадзя Куляшова кожны творца – хоць то пісьменнік, хоць мастак, хоць кампазітар – можа ўзяць як сваё. Бо ў кожнага творцы свая цаліна, свая радзіна, свае сябры і суседзі, свая гісторыя і сваё бачанне свету, і перад кожным – свая задача і звышзадача...***

# Душа не маўчыць

«Аблог цаліны» Генрыха Далідовіча – гэта перш за ўсё Налібоцкі край Стаўбцоўшчына, дзе ён нарадзіўся, вучыўся жыццю і скончыў школу, пазнаваў прыроду і людзей, адсюль пайшоў у войска. З гадамі жыццёвыя абсягі пашыраліся, захопліваючы ўсю Беларусь і свет за Беларуссю. Універсітэт, праца настаўнікам, журналістыка, пісьменніцтва. Першае друкаванае слова, першыя кнігі – «Дажджы над вёскай», «Цяпло на першацвет», «Маладыя гады»...

Пісьменніка адразу заўважыла і высока ацаніла крытыка, яго творы палюбіліся чытачам – за натуральнасць калізій, нязмушаную шчырасць, жыццёвую праўду, за чыстае беларускае слова. Любоў да роднага беларускага слова не магла не перарасці ў пісьменніка ў барацьбу за яго, а служэнне Слову стала служэннем Ісціне, Праўдзе. Сялянская закваска берагла час, кавальская традыцыя (нарадзіўся пісьменнік у сям'і каваля) не давала права эканоміць сілы. У адпрацаваным рытме, з зайздроснай паслядоўнасцю выходзяць новыя кнігі – «Міланькі», «На новы парог», «Станаўленне». Душэўныя гарызонты пісьменніка выходзяць далёка за межы гарызонтаў этнаграфічных, патрабуюць глыбіні даследавання, пошуку адказаў на пытанні нацыянальнага жыцця і нацыянальнага адраджэння. Так у 1985 годзе з'яўляецца «Гаспадар-камень» – шматпланавы раман пра родную пісьменніку Налібоцкую Беларусь напярэдні Першай сусветнай вайны. Твор шырока чытаецца, актыўна абмяркоўваецца, і справядліва ўганароўваецца высокай літаратурнай прэміяй імя Івана Мележа.



*З бацькам Вацлавам Уладзіслававічам. 1996 г. На свяце роднай вёскі*

«Гаспадар-камень» быў відаць здалёк. Ён, зверху белаваты, пасярэдзіне нібы ружовы, здаецца, выветраны да шкляной празрыстасці і цвёрдасці, спадыспаду нібы не зусім ужо моцны, шэры, аброслы тоўстым цвёрдым мохам, патрэсканы, быў вышэйшы за чалавека і ёмісты...

*«Чаго ты тут ляжыш, камень? Дзеля чаго ты тут усяму сведкаю? – падумаў Алесь. – Стагоддзямі ўсё чуеш, бачыш, але маўчыш! Ні душы, ні сэрца ў цябе... Няўжо ты і вабіш толькі таму, каб і нас, людзей, зрабіць нямымі, халоднымі, каменнымі, пазбавіць нас агню, душы і сэрца?..»*

Гэта філасофская цытата з твора, у якой адначасова і пытанне і адказ на пытанне. Камень – сімвал вечнасці, як і людзі, якія жывуць укруга яго і прыходзяць пакланяцца яму.

Калі гаварыць пра далейшую творчасць Генрыха Далідовіча, ніяк нельга абысці ўвагаю «Жар кахання» – цэлую кнігу апавяданняў, галоўнымі дзеючымі героямі якой выступаюць Яна і Ён. Мужчыны сустрэлі апавяданні з раўнівай падазронасцю, жанчыны са шчырай цікаўнасцю: што новага скажа пісьменнік пра тое патаемнае і далікатнае, пра што ў кожнага **свой** досвед і **свой** вопыт і **свая** шкала вартасцяў. Шматлікія пытанні да аўтара на сустрэчах з чытачамі і чытачкамі самых розных узростаў і прафесій паказваюць, наколькі гэта хвалюючая і балючая тэма і што аўтар знайшоў у ёй і **сваё** і **новае**.

*«Гаварыць мне цяпер і цяжка, і лёгка... – прамовіў ён, адчуваючы, што цісне ў горле, ад нейкага даўкага камяку, і заадно лагодна на душы. – Шкода маладосці, дужасці... Мала ўсё ж прырода, жыццё адпускаюць чалавеку маладога веку. Але не нуджуся, не каюся...».*

Гэта словы старога настаўніка, якога калегі адпраўляюць на пенсію. Узятыя яны са шчымлівага і вельмі праўдзівага трыпціха пра настаўнікаў, напісанага Генрыхам Далідовічам болей трыццаці гадоў таму, можна сказаць, на пачатку творчай дарогі.

Не нуджуся і не каюся... З адлегласці сённяшняга дня гэтыя словы можна смела аднесці на рахунак самога аўтара. Вартасць і важкасць, грамадская значнасць зробленага ім на ніве беларускай літаратуры даюць гэтакае права. А яшчэ не вечар...

***Анатоль КУДРАВЕЦ***

*З любоўю да паэзіі*

# Звінець табе мовай-песняй сваёй

***Толькі сапраўдныя патрыёты маглі выстаяць супраць глушэння зялёных расткоў роднай мовы. Звернемся да беларускамоўнай творчасці некаторых паэтаў Беларусі. Як звініць салаўінай песняй любоў паэтэсы Таісы Бондар да беларускай мовы ў аднайменным вершы («Родная мова»)!***

*Я выпешчу, выпушчу*
*ў ранак вясновы,*
*Як птушак душы,*
*запаветныя словы,*
*Пасланцамі песеннай*
*матчынай мовы.*
*Каму і якія! – патрэбы і замовы,*
*Каб не забыць,*
*як на голлі сасновым...*
*Родная мова... Нас ёй вучылі*
*Цёплыя маміны рукі ў маршчынах,*
*Вусны каханага, песні спачыну,*
*Боль у вачах адзінокай жанчыны,*
*Сны і бяссонне пад спеў салаўіны,*
*Даўнія, горкія бацькі ўспаміны...*
*Несці нашчадкам мне*
*ў сэрцы дачцыным*
*Матчыну мову, мову Айчыны.*

*(Таіса Бондар, «І голас набыла душа»)*

Іначай, як сімфонія беларускай мове, якая льецца з душы шчырай патрыёткі Таісы Бондар, гэту салаўіную песню не назавеш. Як бы ні прыніжалі беларускую мову, сколькі б ні гаварылі, што на беларускай мове нельга перадаць (як, скажам, на «вялікай рускай») што-небудзь сардэчнае, як бы ні лічылі яе «дзеравенскай мовай», як ні стараліся яе знішчыць – яна будзе жыць вечна, як і Беларусь! Мроі недругаў беларушчыны адсылае ў небыццё верш «Роднае слова» Анатоля Канапелькі. Колькі любові да беларускай мовы ў гэтай паэзіі! Якімі шматграннымі эпітэтамі звініць «пералівістае, цёплае, светлае, гнеўнае, ціхае» слова.

*Адкрываю, як свет, нанова*
*Беларускае роднае слова,*
*Пералівістае – як каменьчык,*
*Вясёлкавае – як ручай,*
*Цёплае – як агеньчык*
*Добрых тваіх вачэй,*
*Светлае – як маланка,*
*Гнеўнае – як пярун,*
*Ціхае – як калыханка,*
*Вечнае – як Беларусь!*

*(Анатоль Канапелька, «Сустрэчы»)*

Не магу не назваць яшчэ верша «Роднае слова» паэтэсы Дануты Бічэль-Загнетавай, адданай дачкі беларускага народа, улюбёнай у беларускі край. Са шчырага сэрца паэтэсы, як срэбная, звонкагалосая песня жаваранка, льецца беларускае слова:

*Я чула пяшчотнае,*
*Шчырасці поўнае,*
*Маё беларускае,*
*Роднае, кроўнае,*
*Такое раптоўнае,*
*Такое чароўнае.*
*Такое ласкавае, цёплае, чыстае,*
*Як сонца, агністае,*
*Як Нёман празрыстае,*
*Як казка, быліна, як песня жаданае*
*Дагэтуль зусім у жыцці*
*не спазнанае.*
*Вясновае слова ад шчырага сэрца...*
*Кахаю... Люблю... Беларускаму краю*
*Бясконца я слова «люблю»*
*паўтараю.*

*(Данута Бічэль-Загнетава, «Браткі»)*



*Помнік унікальнай літары беларускага алфавіта*

А як цудоўна сказаў адзін з заслужаных мастакоў беларускага паэтычнага слова Анатоль Грачанікаў:

*О Беларусь! Мяне ты ўзрасціла.*
*Дала мне мову, песню, зрок і слых,*
*Каб імі надзяліў дзяцей сваіх.*

*(Анатоль Грачанікаў, «Калі далёка ты...»)*

Іменна ў гэтым адна з галоўных мэт жыцця беларусаў – усё беларускае красамоўства перадаць дзецям, маладому пакаленню, каб не толькі зберагчы, захаваць, але і замацаваць развіццё беларускай мовы.

Адзін з самых любімых паэтаў у Беларусі – Рыгор Барадулін – аўтар звыш двух дзесяткаў паэтычных кніг на роднай мове. Каля дзесяці яго кніг паэзіі надрукаваны на мовах народаў былога СССР, многія творы перакладзены на англійскую, нямецкую, польскую, балгарскую, іспанскую мовы. Рыгор Барадулін папоўніў беларускую паэзію цудоўнымі перакладамі твораў паэтаў Балгарыі, Венгрыі, Грузіі, Латвіі, Малдовы, Польшчы, Расіі, Узбекістана, Украіны і іншых краін свету.

Паэт шырока вядомы на Украіне, у Расіі і сярод народаў іншых краін. Заслуга Рыгора Барадуліна як беларускага паэта і шчырага патрыёта беларускай моўнай культуры ў тым, што грамадскай і літаратурнай дзейнасцю ён дапамог беларускай мове, адной з самых старажытных у Еўропе, стаць у шэраг з іншымі еўрапейскімі мовамі.

Гледзячы на ўмацаванне непрыяцельскіх настрояў у адносінах да беларускай мовы, Рыгор Іванавіч не мог не рэагаваць на такое становішча. Як паэт-патрыёт шмат гадоў таму ён пісаў Андрэю Вазнясенскаму:

*Слухай жа:*
*У крынічнай журбе*
*Журыцца беларуская мова!*
*Слоў сузор'і*
*Ласкава крані –*
*Не пачуем папроку, пярэкі.*
*Мове роднай маёй карані*
*Вымывалі славяншчыны рэкі.*

*(Рыгор Барадулін, «Белая яблыня грому»)*

«Мова маці маёй, – гаворыць паэт, – беларуская мова... Што па жылах маіх цячэ і ціхім Сажом, і Нёманам... Бо, як жыта, спрадвечная Беларуская мова!» («Мая мова». Тамсама).

Паэтычная моўная культура беларусаў багата сінанімічнымі, мнагазначнымі асаблівасцямі, шматграннымі адценнямі згукаў з песеннымі пералівамі – быццам сярэбраны звон у крыштальным бакале. Беларуская мова – старажытная еўрапейская мова, што прыйшла з глыбіні вякоў, гістарычна самабытная, чыстая і багатая сваім зместам. Гэта мова Алаізы Пашкевіч, Дануты Бічэль-Загнетавай і Яўгеніі Янішчыц; літаратурных твораў Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча і Уладзіміра Арлова; мова песенных паэтычных твораў Рыгора Барадуліна, Петруся Броўкі і Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага і Анатоля Грачанікава...

Сапраўды залатыя словы: «... мову нельга забыць і нельга здрадзіць».

***Васіль КАРПЯНЧУК,***
*г. Мінск*

Ад рэдакцыі. ***Нам прыемна падкрэсліць, што Васіль Карпянчук – украінец, жыве і працуе ў Мінску. У нас ёсць і яшчэ яго артыкулы, эсэ з прыязнасцю да беларускай літаратуры і культуры.***





# І не можна без песні



*Добры дзень вам, э*
*нашы госці,*
*Добры дзень вам яшчэ раз.*
*Мы гасцям заўсёды рады*
*І вітаем шчыра вас.*

Так, заўсёды рады гасцям у г.п. Рудзенску Пухавіцкага раёна. Удзельніцы мясцовага фальклорнага ансамбля «Крынічанька» не бачаць сябе без песні.

Салістка Марыя Іванаўна Варывончык, яна ж – стараста і «лакаматыў» гурта – мае незайздросны лёс. Рана пакінуў гэты свет яе каханы муж, давялося адной вывучыць і выхаваць двух сыноў, якія выйшлі ў людзі. Адзін працуе настаўнікам, другі кіруе ЖКГ. Галоўнае ж – іх паважаюць. Яны часта наведваюць маці, радуюць яе і ўнукі, бо бабуля вучыць іх народным песням, а таксама – вучыць любіць прыгажосць роднага краю і працаваць на гаспадарцы. І пры гэтым спявае:

*Бацька едзе па лучыну,*
*Ой да, ой да, ой да,*
*Бацька едзе па лучыну,*
*А сын едзе па дзяўчыну,*
*Ой, да, да...*

Хто б ні зайшоў у хату да Марыі Іванаўны, пачастуе рознымі прысмакамі. А якая ж яна майстрыха – столькі ў яе вышыванак ды іншых вырабаў, аж вочы разбягаюцца... І хочацца разам спяваць:

*Распусціла косы,*
*сумная стаіць,*
*Каля ножкі босай*
*задрыжала ціш.*
*Хто ж цябе пакрыўдзіў,*
*чыстую красу,*
*Можа, ветрык-злыдзень*
*тузаў за касу?*

Песню падхапіла сяброўка Варвара Уладзіміраўна Рысявец – і паплыў напеў над Рудзенскам у мілы сэрцу край, над усёй васільковай Беларуссю.

**Мікола КОТАЎ**



***На здымках: фальклорны ансамбль «Крынічанька» і Марыя Іванаўна Варывончык (злева)***

# У нас цудоўная спадчына*

Сёння, калі культывуецца касмапалітызм і страчваецца ў многіх адчуванне «маленькай радзімы», набываюць вялікую важнасць праблемы, пра якія ідзе гаворка. Зараз ўся наша краіна перажывае надзвычай складаны час. Мы, сучасная моладзь, стаім на жыццёвым раздарожжы. Прычым, калі ў старажытных былінах у гэтай сітуацыі герой прыпыняўся каля каменя-валуна, на якім былі высечаны дакладныя арыенціры, то цяпер нават і такой падказкі няма. Большасць маладых людзей выходзіць у жыццё без разумення яго сэнсу, без адчування яго асноў, без ведання прынцыпаў, на якіх будуюцца чалавечыя ўзаемаадносіны. Школьныя праграмы pазлічаны на сапраўды ўсебаковае развіццё вучняў. Мы вывучаем мноства навук, гісторыю ўсяго свету і амаль не ведаем свайго роднага. Рэдка хто з маладых сёння раскажа вам пра свой радавод, пра гісторыю сваёй вёскі ці горада, пра культуру, традыцыі свайго народа. І амаль ніхто не зможа заспяваць народную песню ці калыханку, расказаць забаўлянку, лічылку ці звычайную казку. Мне і маім аднакласнікам вельмі пашанцавала – мы вучымся па праграмах этнашколы. Вядома, нам вучыцца нашмат цяжэй, чым нашым равеснікам у іншых класах, ды і ўзрост такі, што хочацца часцей бачыцца з сябрамі, больш пагуляць, а часу на ўсё не хапае. Таму зрэдку і надакучае спяваць, танцаваць, наведваць заняткі ў другой палове дня. Але, калі я ў вольную хвіліну сяджу ў адзіноце, мне вельмі прыемна ўзгадваць фальклорныя святы, якія мы рыхтуем і паказваем сваім сябрам, бацькам і настаўнікам. Часта ўспамінаю пачатковую школу, дзе было мноства такіх святаў, дзе ўсё было новым нязведаным і бясконца цікавым. Дарэчы, па словах настаўнікаў, я была далёка не лепшай вучаніцай. А зараз я даволі добра іграю на гармоніку, спяваю, танцую. За ўсё гэта я вельмі ўдзячная сваім настаўнікам, якія навучылі мяне, часам нават і прымусам.

На ўсё жыццё застанецца ў памяці, як мы хадзілі калядаваць. На той час гэта было дзіўным для нашага горада. Са школьнага двара выходзіла некалькі гуртоў калядоўшчыкаў з прыгожымі зоркамі на высокіх шастах і стужкамі. Гурты ішлі ў розныя бакі ад школы, ігралі гармонікі, і мы гучна спявалі: «Хрыстос нарадзіўся...». За кожным гуртам хадзілі групы зацікаўленых гараджан. Многія прасілі зайсці да іх і паспяваць дома. Людзі плакалі ад радасці. Мы тады не разумелі, чаму нашы песні выклікаюць такія эмоцыі. Напэўна, яны вярталі іх у маладосць ці ў дзяцінства з казачным святкаваннем Божага нараджэння.

Яркімі момантамі ў памяці застаюцца сустрэчы з фальклорным гуртом «Талуцяначка» з вёскі Талуць Вілейскага раёна. Мы многаму ад іх вучымся: не толькі спяваць, танцаваць, расказваць, але і жыццёвай мудрасці. Бо гэтыя сціплыя вясковыя жанчынкі – не толькі майстрыхі і артысткі, яны філосафы з вялікім жыццёвым вопытам. З імі можна гадзінамі размаўляць аб сэнсе жыцця, аб зямных чалавечых радасцях і перашкодах, аб тым, што хваліе нас, маладых, і што насцярожвае іх, людзей сталага ўзросту, у сучасным жыцці. Здзіўляе, якія не патрабавальныя яны да ўмоў жыцця, як мала ім патрэбна для шчасця. Напэўна, гэта таму, што многа гора бачылі, шмат цяжкасцей перажылі.

Пасля такіх сустрэч многае незразумелае ў фальклорным матэрыяле становіцца зразумелым.

Я памятаю, як рыхтавалі «Багач». У канцы свята мы перадавалі адзін аднаму лубку з зернем і запаленай свечкай і гаварылі восеньскія прыкметы, прымаўкі, прыказкі, і пажаданні. На душы было нейкае незразумелае пачуццё адказнасці і даросласці.

*Прыйшоў Багач – кідай рагач,*
*Бяры свеньку, ды сей памаленьку.*
*Прыйшла Прачыстая –*
*стала поле чыстае.*
*Закончыш жніво ў пору –*
*Будзе што насіць і ў камору.*

Многае з гэтых мудрых выразаў па-сапраўднаму стала зразумелым толькі пасля размоў з вясковымі бабулькамі, у якіх за кожным словам глыбокі сэнс і сапраўдная мудрасць.

Я памятаю ўсе святы, якія мы наладжвалі. Гляну на каляндар, узгадаю свята – і ў памяці з'яўляцца радкі:

*А ў нас сёння Стрэчанне, Стрэчанне,*
*Зіма з летам стрэлася, стрэлася.*
*Лета зіму пікнула, пікнула,*
*Тая ножку звіхнула, звіхнула.*
*Зіма пайшла плачучы, плачучы,*
*Лета пайшло скачучы, скачучы.*

Гэта з песні, якую мы любім спяваць на Стрэчанне. Дарэчы, падчас сцэнічнага ўвасаблення мы шмат расказвалі аб хрысціянскім і язычніцкім сэнсе гэтага свята. Так, у дахрысціянскія часы свята 15 лютага наладжвалася ў гонар бога грому Перуна, таму і вясновыя спявалі ў гэты дзень з надзеяй прыцягнуць хутчэйшы прыход вясны. Адсюль і зіма з летам сустракаюцца ў прыказках, прымаўках, пацешках, казках.

Вялікае значэнне ў нашай мясцовасці надаецца хрысціянскаму сэнсу свята. Стрэчанне Ісуса Хрыста з людзьмі, якія Яго чакалі.

Вельмі даўно ў старажытным Іерусаліме жыў праведны старац Сімяон. Ад Духа Святога ён ведаў, што не памрэ, пакуль не сустрэне Ісуса Хрыста. Сімяону было больш за 300 гадоў, і ён стаміўся жыць.

І вось нарадзіўся Ісус Хрыстос. Калі яму споўнілася 6 тыдняў, Марыя і Іосіф прынеслі немаўлятка Хрыста ў іерусалімскі храм. Старац Сімяон, навучаны Духам Святым, таксама прыйшоў у храм. Ён сустрэў Дзеву Марыю, узяў з яе рук маленькага Хрыста і з радасцю прамовіў: «Цяпер адпускаеш раба Твайго, Уладар, па слове Тваім, з супакоем, бо ўбачылі вочы мае Тваё выратаванне, якое Ты падрыхтаваў перад абліччам усіх народаў...». Гэтыя словы спяваюцца ў царкве падчас вячэрняга набажэнства.

Амаль кожная вілейская сям'я старацца трапіць на Стрэчанне ў храм, каб асвяціць і прынесці дамоў стрэчанскую свечку, з верай, што яна будзе засцерагаць дом ад усякіх злых праяў.

Яшчэ на Вілейшчыне зберагліся вельмі цікавыя юраўскія абрады. 6 мая з самага ранку кожная гаспадыня бярэ свечаную ваду і вербачку і, выганяючы сваю карoўку ў поле, тройчы пырскае на яе вадой і б'е вербачкай: «Святы Юрый – Ягорый, упасі маю худобку ад гада паўзучага, ад ваўка бягучага і чалавека злога...».

Гэтае свята мы наладжвалі на ўскрайку лесу. Былі ў нас і гаспадынькі з замовамі, і пастушкі з дудкамі. Для сапраўднасці дзеі не хапала толькі каровак, але дзе ж іх возьмеш у горадзе... Нагуляліся, наспяваліся, наскакаліся – і дамоў пайшлі.

Пасля кожнага свята застаецца памяць. І яшчэ ёсць добрая навіна: нашымі мерапрыемствамі сталі больш цікавіцца вучні іншых класаў. Сёлета, як ніколі, многа было гасцей, што, вядома, радуе.

Чым далей я знаёмлюся з фальклорам, з народнай педагогікай, з народнай творчасцю, тым больш пераконваюся, якое змястоўнае і цікавае жыццё пражывалі нашы продкі, нягледзячы на вельмі складаныя ўмовы і цяжкую працу.

Жыццё іх і ў горы, і ў радасці было паэтычна прыгожым, бо на кожным кроку нашых дзядоў і прадзедаў суправаджалі песні, танцы, жарты, заклічкі, прыгаворы, прыказкі... І ўсё з трапным гумарам і глыбокім сэнсам.

Моцнай была сям'я і жаданымі дзеці. Бо калі б гэта было не так, не засталося б нам у спадчыну столькі казак, забаўлянак, дражнілак, калыханак...

*Пайшоў каток пад масток,*
*Спаймаў рыбку за хвасток.*
*Сяму-таму прадаваў,*
*Маёй доньцы дарам даў...*
*А над нашым садам соўка пракрычала,*
*Каб ты, мая донька, бяды не спазнала.*
*Свежы ветрык дыхнуў*
*да нас у ваконца,*
*Няхай табе, донька,*
*заўжды свеціць сонца.*

Якая душэўная ласка і пяшчота, якая бязмежная любоў!.. І я хачу, каб мы ведалі пра гэта, каб памяталі, што не бязродныя...

Тысячу гадоў стаяць на нашай зямлі жамчужыны культуры і святасці – нашы белыя цэрквы. У нас цудоўная спадчына! Хочацца, каб мы, а потым і нашы дзеці, ганарыліся ёю, і каб увесь свет ведаў пра гэта.

***Ксенія КОНАНАВА,***
***вучаніца 9 «Г» класа сацыяльна-педагагічнага праекта «Этнашкола» Вілейскай гімназіі № 2***



***Сябры клуба аматараў фальклору «Магдаліна» Магдалінскага СДК Кобрынскага раёна, якім кіруе Святлана Васільеўна Самусевіч***

*Выступленне на III Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Традыцыйная культура і дзеці: праблемы этнавыхавання», 19–20 красавіка 2006 г., г.п. Акцябрскі.





# Дзеравянчыцы – Бракава

## Гістарычнае суседства



Дзеравянчыцы сёння

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

### Княжацкае ўладанне

Магчыма, што дзеравянчыцкім гаспадаром, які збракаваў сялян, быў вялікі князь ВКЛ Жыгімонт II Аўгуст. У Дзеравянчыцах дагэтуль сапраўды вельмі добрая зямля, а за рэчкай, у Бракаве – груды ды пагоркі. Вось пан адсяліў туды сялян. З архіўных дакументаў вядома, што ў сярэдзіне XVI стагоддзя вёскі Дзеравянчыцы і Бракава мелі статус гаспадарскіх уладанняў і былі на той час вельмі невялікія.

Кажуць, што Дзеравянчыцы некалі месціліся там, дзе знаходзяцца сучасныя вясковыя могілкі, а Бракава пачыналася там, дзе сёння на цэнтральным перакрыжаванні стаіць праваслаўны крыж. Каб павысіць даходнасць сваіх маёнткаў, у 1557 годзе Жыгімонт II аб'явіў правядзенне рэформы дзяржаўных земляў. Дзеравянчыцкая бракаўская зямля, як і ўсё навакольле, падзялілася на роўныя часткі – валокі (па 21,3 га кожная). Самыя лепшыя ўрадлівыя ўгоддзі адводзіліся пад вялікакняжацкі фальварак, у якім цяглавыя сяляне павінны былі адбываць паншчыну. Кожная сялянская гаспадарка замацоўвалася за часткай валокі. Такім чынам, сяляне страцілі волю, зрабіліся прыгоннымі аж на некалькі стагоддзяў.

### З судовых актаў

Цікавыя запісы з жыцця Дзеравянчыц і Бракава знаходзім у Актах Слонімскага земскага суда (гэты дакумент захоўваецца ў Слонімскім раённым краязнаўчым музеі імя Стабroўскага). У акце 64 «Решение по жалобе Лаврина Оreницкого на Янута Барташевича за учиненную якобы у него кражу вещей» распавядаецца пра тое, як у 1556 годзе земянін гаспадарскі Лаўрын Арэніцкі з Радзівілавічаў ехаў дадому ад пана ваяводы троцкага з Дакудава і, каб адпачыць, папасвіць каня, спыніўся ў Бракаве. У той час, пакуль ён спаў, у яго ўкралі «с коня еднорядку пурпурыянскую лазуровую з шнурами шолковыми, седло демидъ черленое с костьми, епанчу, тайстру, узду...».

У акце 372 «Заявление Пачуты Дробышевича о нанесении ему и его жене побоев Артемием Мелешкою» распавядаецца, як ноччу 16 снежня 1565 года дваранін гаспадарскі пан Арцём Міхайлавіч Мялешка «приехавши на домъ (да падданага господарьскага войтовства Долгинецкого, з села Деревянчичъ, Пачуты Дробышевича), безвинне жону его Овдотью збилъ и зранилъ и его самого за бороду рвалъ, при которомъ бои у жоны его згинуло з ручником две копе грошей литовскихъ...».

### Мікульскія

Пасля Айчынай вайны 1812 года ўладальнікам Дзеравянчыц і Бракава сталі паны Мікульскія. Прадстаўнікі гэтага шляхецкага роду герба «Равіч» мелі ў Слонімскім павеце шэраг маёнткаў і лічыліся багатымі і ўплывовымі людзьмі. Шматлікія родзічы Мікульскіх у XIX стагоддзі, паводле гістарычных дакументаў, былі прыпісаныя да Віленскага павета Віленскай губерні і Гродзенскага павета Гродзенскай губерні.

### Паўстанне 1831 года



В.А. Мацвеева

У 1831 годзе на Беларусі ўспыхнула паўстанне супраць расійскага самадзяржаўя. У Спісе памешчыкаў, «неблаганадзейных да спакою», складзеным у сакавіку 1831 года, імёны Фларэнцыя і Стэфана Мікульскіх стаялі на трэцім і чацвёртым месцах. Трэба дадаць, што стрыечныя браты дзеравянчыцкіх Мікульскіх удзельнічалі ў паўстанні ў складзе арміі генерала Д. Хлапоўскага. Але пасля няўдалага штурму Вільні (19 чэрвеня 1831 года) лёс братоў Мікульскіх невядомы. У паўстанні таксама прымаў удзел вядомы мастак і музыкант Напалеон Орда. Ён быў падпаручнікам 4-га конна-егерскага палка, з якога быў камандзіраваны ў Галоўны штаб паўстанцкага войска, дзе знаходзіўся на працягу ўсёй кампаніі, а потым вымушаны быў эмігрыраваць.

У 1837 годзе Фларыян Мікульскі прадае свой маёнтак стацкаму саветніку Пятру Орду.

### Орды

Беларускі род Ордаў мае глыбокія ўсходнія карані. Верагодна, што продкі Ордаў пасяліліся ў ВКЛ у XIV стагоддзі яшчэ ў часы Вітаўта. Пазней сярод прадстаўнікоў гэтага роду, якія прымалі актыўны ўдзел у палітычным жыцці краіны, можна прыгадаць кашталяна троцкага Станіслава Вінцэнта Орду (1685–1689). У XIX стагоддзі большасць дваран з прозвішчам Орда жылі ў Пінскім павеце Мінскай губерні. У Слонімскім павеце адну з самых высокіх урадавых пасад займаў стацкі саветнік Пётр Орда, які быў павятовым суддзёй. Нягледзячы на тое, што ён служыў у Расійскай імперыі, Орда не прымаў самадзяржаўныя парадкі, якія панавалі ў Паўночна-Заходнім краі, жадаў бачыць сваю радзіму свабоднай і незалежнай. Разам з іншымі прадстаўнікамі дваранскай інтэлігенцыі ён быў адным з актыўных удзельнікаў патрыятычнага падполля ў павеце.

### Капліца

У 1851 годзе жонка Пятра Орды Эвеліна памерла і была пахавана на слонімскіх могілках. Муж пабудаваў у Дзеравянчыцах невялікую мураваную капліцу. 29 кастрычніка 1852 года ў прысутнасці шматлікіх памешчыкаў, дзеравянчыцкіх сялян гэтая капліца была асвечана парафіяльным слонімскім ксяндзом Грыневічам з дапамогай двух манахаў ордэна бернардзінцаў.

«Воздвигнутое каменное здание в деревне Деревянчицах помещиком Ордом отстоит от православных кладбищ в расстоянии на четверть версты, в здании этом с фронта выведено пять остерекольных небольших глав отличной работы, которые все покрыты аглийскою белою жестью с учреждением на концах небольших крестов и представляет из себя отличный вид, в самом здании в стенах устроено по два большие окна, крыша оного покрыта железом и окрашена масляною краскою, а на верху оной устроен небольшой купол. Здание это построено вблизи самого двора с правой стороны; дорога к оному выложена камнями и вокруг оного обведена небольшая ограда», – гаворыцца ў данясенні літоўскай кансісторыі губернскаму праўленню.

Як выглядала капліца на той час, можна даведацца з малюнка Напалеона Орды, які неаднаразова прыязджаў у Дзеравянчыцы. Але і да сённяшняга дня яе знешні выгляд амаль не змяніўся. У 20-я гады XX стагоддзя дзеравянчыцкі храм належаў да слонімскага касцёла Хрыста Збаўцы, які месціўся ў вайсковай часці. Да 1939 года ў капліцы вяліся набажэнствы.

– А ў палацы жыла манашка Марыя, якая заўсёды хадзіла ў чорна-белым убранні. А мы, дзеці, бегалі да яе ў капліцу кожную суботу і нядзелю, яна заўсёды раздавала нам цукеркі-падушачкі. А потым запальвала свечкі і малілася, – узгадвае В.А. Мацвеева.

### Апошнія з роду

У Пятра і Эвеліны Ордаў быў сын Іосіф, які пасля смерці бацькі стаў новым уладальнікам Дзеравянчыц. Ён атрымаў у спадчыну шыкоўны палац, флігель, шматлікія гаспадарчыя пабудовы (чварак для парабкаў, стайню, вадзяны млын і інш.). Апроч гэтага, у маёнтку працаваў шкіпінарна-смалагонны і цагельны заводы. Усё ішло добра, але, на жаль, у Іосіфа і яго жонкі Марыі не было дзяцей. Адзіным чалавекам, да каго Орды адносіліся з бацькоўскай ласкай, быў іх хрэснік, малады пан Абязерскі. У 1927 годзе, пасля смерці хросных, Абязерскі стаў паўнапраўным уладальнікам дзеравянчыцкага маёнтка.

– Я памятаю, як пані Орда памерла. У нас па вёсцы папаўзлі чуткі, што быццам бы хаваць яе не будуць, а яна жывая пойдзе па вёсцы. Але гэта была няпраўда, яе труну везлі на павозцы. Старога Орду таксама пахавалі ў гэтай капліцы. Пад будынкам там быў уваход. Труны занеслі, паставілі і ход замуравалі. Абодвух Ордаў пахавалі ў капліцы. Хаваў іх хрэснік Абязерскі. Ён таксама быў халасцяк, нежанаты, – гаворыць мясцовыя жыхары.

### Ельскія

Пан Абязерскі не меў жадання займацца гаспадаркай, таму аддаў свой дзеравянчыцкі маёнтак у арэнду Уладзіславу Ельскаму. Новы гаспадар маёнтка паходзіў з вядомага на Слонімшчыне шляхецкага роду. На момант пераезду ў Дзеравянчыцы Уладзіславу і Яніне Ельскім было прыкладна па 40 гадоў, былі яны бяздзетныя. Кожную раніцу на брычцы фурман вазіў паноў Ельскіх на працу. Сам Ельскі працаваў у Жыровіцкай гміне, а яго жонка – урачом-акулістам у слонімскай бальніцы. Бывала, што хворыя пешшу прыходзілі да доктара Ельскай у Дзеравянчыцы. Здаралася, што людзі чакалі цэлы дзень, калі пані выйдзе ды агледзіць хворага. Надта была яна фанабэрыстая. Другі раз не падступішся. А пан Уладзіслаў, наадварот, быў ветлівы, добразычлівы, да простых сяльчан адносіўся з цеплынёй. Але гэта яго не ратавала.

– У 1939 годзе, калі прыйшлі Саветы, у вёсцы з'явіліся чырвонаармейцы. Мой бацька падагнаў фурманку да палаца, адкуль яны вывелі пана. Ды сабраліся вяскоўцы, пачалі прасіць за Ельскага. Салдаты, вядома, не паслухаліся, кінулі пана на фурманку, куды павезлі – невядома. А ягоная жонка яшчэ да гэтага з'ехала ў Польшчу, – узгадвае Іван Васільевіч Крысюк (1932 г.н.).



Чваракі

Крысюкі

### Палац

Двухпавярховы палац у Дзеравянчыцах быў пабудаваны ў стылі эклектыкі. Сапраўдным яго ўпрыгажэннем па праву лічыліся шыкоўныя і гладкія, як люстэрка, коміны. Аднак не ўсе пакоі ў палацы былі занятыя. У Ельскіх былі сталовая, салон, спальня і кабінет, ды яшчэ пакой служанкі на другім паверсе. А большасць пакояў не выкарыстоўвалася. Перад будынкам была вялікая кветкавая клумба. З другога боку ў сад вяла алея, таксама з двух бакоў абсаджаная кветкамі. Палаца ў Дзеравянчыцах не стала ў 1944 годзе.

*Святлана і Ігар ПРАКОФ'ЕВЫ*
*Фота аўтараў*





***«З якога боку ні пад'язджай да Клецка, з шырокіх далін, быццам бы выбеглі на спатканне, сустракаюць цябе белыя, як нявесты, бярозы. Іх шмат у наваколлі горада. Асабліва непаўторныя прыгажосцю бярозавыя гаі на поўдні раёна...» Гэтымі словамі пачынае сваю кнігу аб старажытным Клецку пісьменнік-краязнаўца А.С. Бушэнка. Згодна з яго версіяй, бярозавыя гаі вакол Клецка раслі спрадвеку, менавіта яны і абумовілі ўзнікненне геаграфічнай назвы Клецк. Больш падрабязнае тлумачэнне змешчана ў кнізе географа і тапаніміста В.А. Жучкевіча, які лічыў, што згаданую назву ёсць сэнс супастаўляць з рускім дыялектным словам*** *клечь* ***– «бярозавыя парасткі», адзначаным у вядомым слоўніку У.І. Даля. Ён жа ўказваў і на слова з беларускіх гаворак*** *клечанне* ***– «зеляніна, якой упрыгожваюць хаты на Троіцын дзень».***
***В.А. Жучкевіч гаварыў і аб іншай магчымасці тлумачэння назвы Клецк – ад слова*** *клецъ* ***– «драўляны зруб, прамавугольная пабудова, памяшканне хаты, якое не ацяпляецца».***

# Горад у бярозавым гаі

На наш погляд, пытанне аб паходжанні назвы *Клецк* нельга вырашыць так проста. Мы лічым, што гэтая назва не магла непасрэдна ўтварыцца ад слова *клець*, як, дарэчы, і ад згаданых дыялектных слоў – рускага *клечь* і беларускага *клечанне*. Справа ў тым, што кожная няпростая на сённяшні дзень геаграфічная назва абавязкова суадносіцца з іншымі імёнамі, якія існуюць на суседніх ці больш далёкіх тэрыторыях. Вось і назва *Клецк* параўноўваецца перш за ўсё з такімі старажытнымі найменнямі, як *Мінск, Полацк, Віцебск, Пінск, Слуцк, Бабруйск, Чачэрск*. Усе яны ўтварыліся з дапамогай суфікса -ск ад назваў рэчак, на якіх размяшчалася першапачатковае пасяленне – *Мена, Палота, Віцьба, Піна, Случ, Бабруйка, Чачора*. Слова *Клецк* таксама нагадвае назву, утвораную ад рачнога імя. У летапісах адлюстраваліся наступныя формы назвы: *Клецк, Кльчьск, Кльческъ, Кльчьскъ, Клечьск, Клеческ*. Пры іх дапамозе магчыма нават аднавіць былое імя ракі – *Клеч* ці *Клеча*.

Прадбачым тут пытанне: а дзе тая рака? Вядома, што горад Клецк стаіць на рачулцы Лань. Усё гэта так, але вядома і тое, што амаль кожны старажытны горад узнікаў на месцы сутокаў дзвюх рэк – якой-небудзь больш значнай і невялікага прытока. Менавіта малая рачулка ці нават ручай якраз і давала імя пасяленню. Так, Бабруйск узнік на беразе рэчкі Бабруйкі, якая ўпадала ў Бярэзіну; Полацк – ля сутокаў Палоты і Заходняй Дзвіны; Чачэрск – недалёка ад зліцця Чачоры і Сожа.

Рачулка *Клеч (Клеча)* магла да нашага часу і не захавацца. Такіх прыкладаў таксама шмат. І толькі адно яе імя, увасобленае ў назве горада, магчыма, захоўвае памяць аб былым водным аб'екце. Зрэшты, рака ніколі не знікае зусім. Застаюцца яе сляды. І перш за ўсё старажытнае рэчышча, якое цяпер можа існаваць у выглядзе яра ці глыбокай нізіны. І яшчэ. Калі такая рака сапраўды існавала, то адпаведныя ёй назвы рэчак адшукваюцца на іншых тэрыторыях.

У дадзеным выпадку патрэбныя нам імёны на самой справе ёсць. Гэта рэчкі *Клетка* і *Кліца* ў басейне Дняпра, *Клеча, Клёчанка, Клеценка* ў басейне Акі.

Цяпер нам неабходна паразважаць аб тым, што першапачаткова маглі б азначаць гэтыя рачныя імёны. Вось тут, на наш погляд, дарэчы будуць тыя тлумачэнні, з якіх мы пачалі гэты наш расповед. Вельмі верагодна, што нагаданыя невялікія рачулкі і ручаі працякалі цераз вільготныя нізіны і наогул бралі пачатак у балотах і дрыгвяністых крыніцах. А калі гэта так, то паходжанне назваў *Клеча, Клечанка, Клячанка, Клеценка, Клечышчы* і падобных да іх ад рускага дыялектнага слова *клечь* ці ад такога ж беларускага *клечанне* будзе мець пэўную геаграфічную матывацыю. Справа ў тым, што дробналессе, у тым ліку бярозавыя парасткі звычайна з'яўляюцца якраз уздоўж берагоў лясных балоцістых рэчак і ручаёў.

Адначасова ёсць магчымасць адзначаныя рачныя імёны тлумачыць і трохі ў іншым аспекце, а менавіта пры супастаўленні са словам клець (параўн. старажытнарускае *кльпь, кьлеть* – «халодная пабудова з бярвення; хаціна»). Даследчыкі-этымолагі, якія займаюцца вывучэннем паходжання агульных слоў, адзначаюць, што першасным значэннем слова *клець* (яно, дарэчы, вядома ў заходніх і ў паўднёвых славянскіх мовах) было «дом, жытло». Калі тлумачыць паходжанне рачных найменняў тыпу *Клеча* ад слова *клець (кльть, кьлеть)*, то гэтыя найменні трэба разумець як «тыя рэчкі, што працякаюць побач з домам, жытлом», «дамашнія». Менавіта такім чынам мы прапаноўваем тлумачыць некаторыя з гідронімаў, утвораных ад кораня *тур-* (*Тур'я, Турэйка, Турыя, Турыца* і інш.). Цікава ў гэтым плане адзначыць, што ў Верхнім Падняпроўі, на тэрыторыі Беларусі, Украіны, на Палессі, а таксама ў басейне Акі часта сустракаюцца невялікія рачулкі пад назвамі *Дамаха, Дамашня, Дамашка, Домша, Домшынка*. У гэтых назвах відавочны корань *дом-*, і ўсе яны разумеюцца як «рэчкі, якія працякаюць побач з домам».

Відаць, гэтае значэнне было ў мінулым даволі «папулярным» у славянскага насельніцтва, якое паступова прасоўвалася на поўнач, поўдзень, усход, абжывала незаселеныя землі і будавала на іх свае першыя хаціны. А шматлікія малыя рэчкі пры гэтым прыстасоўваліся пад розныя гаспадарчыя, «хатнія» патрэбы. Што ж датычыць слоў, якія выбіраліся для найменняў «дамашніх» рэчак, то іх было, як мы бачым, некалькі. Адным з іх з'яўлялася старажытнае славянскае слова *клець*. На тэрыторыі Беларусі ад гэтага слова з першапачатковым значэннем «дом, жытло» ўтварыліся не толькі найменні рэчак, але і шматлікія назвы населеных пунктаў тыпу *Клецішча, Клетпкі, Клетнае*, якія сустракаюцца ў розных раёнах краіны.

Вось такім чынам, на наш погляд, ёсць магчымасць на сённяшні дзень тлумачыць старажытную назву горада Клецк, які ў 1998 годзе сустрэў сваё 870-е «лета» з моманту першага з'яўлення на старонках Іпацьеўскага летапісу.

Аднак, каб быць шчырым да канца, трэба сказаць і аб тых сумненнях, якія існуюць і перашкаджаюць безагаворачнаму прызнанню правільнасці зробленых тлумачэнняў. Маецца на ўвазе наяўнасць рачнога наймення *Кліца*, якое мы хоць і лічым роднасным найменню *Клеч (Клеча)*, тым не менш з вялікай цяжкасцю супастаўляем яго як са словам клець, так і са словамі *клечь* (рускае) і *клечанне* (беларускае). Сюды трэба дадаць таксама тапонім *Клічаў* (горад, райцэнтр Магілёўскай вобласці), які з дастатковай упэўненасцю супастаўляецца як з назвай Клецк, так і з назвамі *Клечанка, Клетка, Кліца*. Таму на заканчэнне выкажам яшчэ адно меркаванне ў форме пытання: ці не хаваецца ва ўсіх згаданых геаграфічных назвах нейкае забытае сёння ці запазычанае некалі з іншых моў слова, спрадвечнае значэнне якога пакуль адшукаць немагчыма?



*Горад на гравюры XVII ст.*



*Рынкавы пляц на фота 1930-х гг.*

***Паводле кнігі Аляксандра РОГАЛЕВА «Сцежкі ў даўніну»***

---

*(Працяг. Пачатак у №№ 18, 19)*

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***

# Сярод поля, сярод лесу

## Апавяданне-імправізацыя

На дажынках ужо няма ні грузавіка, ні Кураглядава, дык жнеі спраўляюць іх самі. Ахарошвалі апошні сноп кветкамі і стужкамі, пакідалі, звязвалі з жыта «бараду» і з песнямі неслі сноп ці ў вёску, ці на хутар (прыносілі і ў Генікаву хату), дзе гасцей чакалі бліны з маслам, крупяная каша, а то і кожнаму кілішак (пазней дажынкі сталі «святам ураджаю» ў якой-небудзь вёсцы, куды наязджала нямала машын са скрынямі напітку і піва, марожаным, з артыстамі і слухачамі, дзе прамаўлялі хтосьці з райкома партыі і Кураглядаў, дзе пачалі ўсё больш і больш піць моцнае, лаяцца і часта біцца).

У адну жнівеньскую ноч, калі ўжо не раз абрасяньвалася, пацягваў холад ад восені, знікалі ластаўкі, што перад гэтым збіраліся і сядзелі гуртам; ржышча рыжэла, а па ім, калі ішлі дажджы, бралася розная маладая трава; пачынала ўсё больш жаўцець і ападаць лісце; у кожнай хаце, дзе былі дзеці, усё больш і больш было гаворкі пра школу...

Асобна помняцца якраз летнія страшныя навальніцы, у якія, бывала, згаралі чыесьці хаты.

### Восень

І цяпер, у пажылым узросце, светла ўсплываюць успаміны пра той год, калі памёр Сталін («О, Божа, хоць бы не было вайны!») і калі з хваляваннем ішоў у першы клас янкавінскай пачаткоўкі, дзе іх чакалі прыезджыя маладыя, прыгожыя настаўнікі Вольга Кірылаўна і Генадзь Адамавіч. Вучні першага класа вучыліся з трэцекласнікамі ў першую змену, а вучні другога з чацвёртакласнікамі – у другую. Позняй восенню і зімой пісалі і чыталі пры падвешаных да столі лямпаў.

Геніку вучоба давалася лёгка: ён умеў ужо чытаць. Каб не сумаваў і не замінаў іншым, настаўніца давала яму зрабіць нешта асобна. Ды ён «не круціўся», вельмі любіў слухаць, як яна хараша гаварыла трэцекласнікам (на памяць засвойваў тое, што трэба было ведаць ім, а ў другім класе – тое, што патрабавалася ад суседзяў-чацвёртакласнікаў). І зачароўваўся, калі настаўніца прыгожа спявала. З-за іх, яе песень, закахаўся ў яе малечай любоўю...

Запомніўся і адзін дзень у школе, калі ў яе ўкуліўся страх: на перапынку яны, дзеці, не проста гулялі, а дурэлі, кідаліся абы-чым, і вось хтосьці выпадкова ўцэліў мокрай анучай у партрэт Сталіна – рамка ўпала, шкло разбілася, і хтосьці затаптаў, пацёр твар лагоднага вусатага дзядзькі. Звычайна жыццярадасная настаўніца, убачыўшы гэта, анямела, напужалася, пасля кінулася, сама выцірала сваёй хустачкай той твар. «Дзеткі, – узмалілася сашчэпленымі рукамі. – Нікому, нават дома, ні слова пра тое, што тут выйшла! Іначай...»

Дома, канечне, не ўсе змаўчалі пра гэты выпадак, але чутка з вёскі далей яе не выйшла. Хутка над дошкай вісеў новы партрэт таго, ужо мёртвага, але, выходзіць, больш грознага, чым Бог, чым Кураглядаў, чалавека...

Восень была ў розныя гады самая незвычайная – сонечная і сухая, марасяная, не проста дажджлівая, але мокрая, стылая, з прасветам і радасным першым і другім «бабчыным летам». Былі абмалот збажыны ў калгасным гумне, сушка і трапанне лёну, попрадкі, калі моладзь, як і іхнія прадзеды, па вечарах гуртавалася ў чыёсьці не столькі прасторнай, колькі гасціннай хаце, дзе былі прыветлівыя гаспадары і незамужнія дзяўчаты. Ды наступалі і наступалі шэрыя, шэра-цёмныя, усё больш азмрачнелыя, штодзень карацейшыя дні, што пасля шчаслівa абноўліваліся: пасля запускаў і посту пачыналася часіна шчаслівых вяселляў. І цяпер светла, хараша помніцца, як выходзіла замуж хутарская красуня Тэця – помніце, тая, што падносіла першы зжаты жытнёвы сноп старшыні калгаса на «ўрачыстым свяце ўраджаю». Запомнілася не толькі белымі сукенкай і вэлюмам, але і тым, што маладая чамусьці была вельмі засмучаная, нават са слязьмі, што незамужнім дзяўчатам шчодра сыпала пад ногі зерне, а іх, малечу, адорвала смачнымі цукеркамі. Пасля – ды не, нашмат пазней Генік, можа, крышачку наблізіцца да пазнання яе слёз: яна, як і кожная дзяўчына, на сваім вяселлі маркоцілася не па завядзёнцы, яна... прадчувала сваю долю... Праз гадоў пяць яе муж, талковы чалавек, пакіне яе маладой удавой, дачку паўсіратою; памаркоціўшыся гады тры, яна выйшла замуж другі раз, нарадзіла сына, аднойчы карміла яго грудзямі і ўпала, але здолела дзіця пакінуць жывым...

*(Заканчэнне будзе)*



## Чэрвень

**1 – Генрых Далідовіч (1946)**, пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, намеснік галоўнага рэдактара «Краязнаўчай газеты» – 60 гадоў з дня нараджэння.

**4 – Аляксандр Хадкевіч (1776–1838)**, палітычны і ваенны дзеяч, хімік, літаратар, удзельнік паўстання 1794 г., член Пецярбургскай АН – 230 гадоў з дня нараджэння.

**9 – Іван Луцкевіч (1881–1919)**, палітычны дзеяч, археолаг, этнограф, публіцыст, адзін з пачынальнікаў і ідэйных кіраўнікоў беларускага культурна-асветнага і грамадска-палітычнага руху – 125 гадоў з дня нараджэння.

**15 – Мікола Гіль (1936)**, журналіст і пісьменнік – 70 гадоў з дня нараджэння.

**15 – Салігорскі краязнаўчы музей (1976)** – 30 гадоў з часу заснавання (адкрыты 11.08.1984).

**29 – Іван Чарняхоўскі (1906–1945)**, ваенны дзеяч, удзельнік вызвалення Беларусі ў 1944 годзе – 100 гадоў з дня нараджэння.



*І для сасны – жытло...*

*Фота Ўладзіміра ПУЧЫНСКАГА*

**Смех і горыч**

### Дысцыпліна

*Хадзіў пры Польшчы ў Канcталінскую школу. Аднойчы на перапынку выскачыў на вуліцу праз вакно. На пачатку ўрока настаўнік зацісну ўпаміж каленкамі і як дасць па мяккім месцы жалезнай лінейкай, пад кожны ўдар прыгаворвае:*

*– Вукны для віdзэння, двежы для ходзэння!*

**Запісана ад Альфонса Бялуся, в. Пагошча**

### «Маладзіцы»

*Вярнулася ў 1944 годзе ўлада на Мёршчыну, пачалі сялянам выдаваць дакументы – узрост ставілі са слоў уладальніка. Мужыкі старылі сябе як маглі – каб не трапіць у прызыўнікі. Кабеты ж дружна пачалі «маладзіцца» на 3–6 гадоў. А хутка прыйшлі калгасы з амаль дармавой працай, выйсці з якіх можна было толькі на пенсію.*

**Запісана ад Елісея Бунты, в. Пагошча**

### Тармазнулі

*Вайной паліцэйская карная часць у Браславе атрымала заданне знішчыць вёску за сувязь з партызанамі. Каб паспець папярэдзіць асуджаных, падпольшчыкі вырашылі затрымаць карнікаў, падмяшаўшы ім у ежу паслабляльнага. Кажуць, што рух калоны быў такі марудны, што можна было ўцячы не толькі ў лес, але і ў суседні раён.*

**Запісана ад Івана Малешскага, в. Пагошча**

### Сумленне

*Выбіраецца тайком старшыня калгаса ранкам гародамі ад вясёлай маладзіцы і натыкаецца на суседку. Не разгубіўся і дае той дваццацірублёвую купюру (на той час – неблагія грошы):*

*– Пятроўна, вазьмі – толькі маўчы!*

*Тая пакруціла нерашуча паперку ў руках і з уздыхам вяртае:*

*– Забяры, Іванавіч, я ж усё роўна не вытрымаю...*

**Запісана ад Елісея Бунты, в. Пагошча**

*(Паводле часопіса краязнаўцаў Браслаўшчыны «Павет»)*

### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 19

***Уздоўж***

7. Праваслаўе. 8. Арэфлексія. 10. Мова. 11. Чарноўскі. 12. Шміт. 15. Асадка. 18. Камень. 19. Даватар. 20. Богдан. 21. Кіпель. 25. Дамейка. 26. Глінка. 27. Карусь. 30. Грын. 32. Тэктандэр. 33. Оган. 34. Шастаковіч. 35. Стравінскі.

***Упоперак***

1. Твардоўскі. 2. Аксамітнік. 3. Пасха. 4. Шастак. 5. Чэрскі. 6. Целеш. 9. Доўгае. 13. Якубоўскі. 14. Кавалёнак. 16. Качалаў. 17. Расічка. 22. Шклярэўскі. 23. Нестар. 24. Дастаеўскі. 28. Зэльва. 29. Рэзерв. 31. Нерат. 33. Орлік.

## Сусветны дзядзінец

**1413 г.** Падзел ВКЛ на ваяводствы.

**1586 г.** Прыкладна той час, калі па Еўропе «закрочыла» бульба.

**1642 г.** Галандскія марэплаўцы адкрываюць сённяшнюю Новую Зеландыю. Туземцы сустрэлі іх варожа, як заваёўнікаў.

**1785 г.** Спецыяльным сенацкім указам вызначаецца маршрут для паездкі Кацярыны II, яе двара і дыпламатычнага корпуса ў новыя «далучаныя» («набытыя» і г.д.) землі пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай, каб паглядзець, як цяпер расцвітае той край. Князь Пацёмкін заклікае архітэктараў і тэатральных дэкаратараў стварыць уздоўж шляху бутафорскія будынкі, млыны і г.д. «Пацёмкінскія вёскі» з часам займеюць негатыўны сэнс, але іхняя ідэя жывучая.

**1811 г.** Лічыцца, што з таго часу – рэзкі рост папулярнасці буракоў. Дасюль іх спажывалі на корм жывёле, але ў час напалеонаўскіх войн у Еўропу перастаў паступаць з Вест-Індыі цукровы трысняг, з якога вырабляўі цукар. Вось тады Н. Банапарт дэкрэтам выдзеліў 80 000 акраў зямлі для пасеву цукровых буракоў, загадаў падрыхтоўваць спецыялістаў і будаваць заводы, каб атрымоўваць цукар з буракоў.

**1956 г.** У ЗША патэнтуецца сецевы кабель для камп'ютэраў.

**1998 г.** Упершыню ў свеце праводзіцца перасадка клеткі чалавечага мозгу.

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ВЕРХ** у архітэктуры – пірамідальнае, купальнае або яруснае завяршэнне будынкаў. Вядома ў многіх краінах Еўропы, у Беларусі, як і ў Расіі, на Украіне, вызначалася ў XV–XIX стст.

У мураванай архітэктуры Беларусі пачаў сцвярджацца з XI ст. у выглядзе барабанаў на ветразях і ступеньчатых арках (Сафійскі сабор і Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку). У архітэктуры Адраджэння (XVI – 1-я пал. XVII стст.) купальны верх звонку аздаблялі аркатурай і іншымі элементамі дэкору (кальвінскі збор у Смаргоні). У архітэктуры барока і класіцызму верх вызначыўся стройнымі прапорцыямі, аздабляўся скульптурай і жывапісам (фарны касцёл у Нясвіжы і інш.). У 2-й пал. XIX – пач. XX стст. ён шырока выкарыстоўваўся ў культавых будынках стыляў псеўдарускага і «мадэрн» (Сімяонаўская царква ў Брэсце і інш.). У драўляным дойлідстве Беларусі верх вядомы з XVI ст. (Успенская царква Ляшчынскага манастыра пад Пінскам).

**ВЕРХНЯДЗВІНСК** (да 25 снежня 1962 г. Дрыса) – горад, цэнтр (з 1962) Верхнядзвінскага раёна, у сутоку Заходняй Дзвіны і Дрысы. Летапісная назва – Дрысь, Дриса, Дриза). Узнік як



*Фрагмент смаргонскага кальвінскага збору (фота пач. XX ст.)*

ваеннае паселішча Полацка. У 1386 г., у часы міжусобіцы ў ВКЛ, спалены А. Полацкім. З XVI ст. гандлёвы цэнтр на Заходняй Дзвіне. У 1563–1582 гг. быў ва ўладанні войск Івана Грознага. З 1772 г. у складзе Расіі, цэнтр павета. У 1897-м было 4 238 насельнікаў. Здаўна шырока вядома Верхнядзвінскае народнае ручное ўзорыстае ткацтва. Асаблівасцю яго з'яўляецца традыцыйнае спалучэнне чорнага з малінавым, чорнага з белым, чорнага з чырвоным, чорнага з аранжавым колераў. Узоры – «у дымкі», «у ромбы», «у кругі» і інш.

**ВЕРШ** (з лац.) – невялікі лірычны або ліра-эпічны твор, напісаны вершаваной мовай. У ім адлюстроўваюцца розныя жыццёвыя з'явы лірычнага, драматычна-трагічнага характару, дзе выяўляюцца актыўныя адносіны аўтара да гэтага. Вершаванымі формамі ствараюцца оды, эпіграмы, сатыра, элегія і інш. Разнастайны, багаты верш і па форме. У ім спалучаны розныя віды рытму, гукавой арганізацыі (фоніка, рыфма), архітэктонікі (страфіка), паэтычнага сінтаксісу, тропаў. Верш валодае своеасаблівай інтанацыяй, кампазіцыйнымі сродкамі. У беларускай літаратуры вершы (не столькі самі па сабе, а менавіта з такім тэрмінам) з'явіліся ў пачатку XVI ст. у творчасці Ф. Скарыны. Спачатку гэтым словам называлі 2-радкоўі, змацаваныя рыфмамі, пасля – усякі твор, напісаны вершаваннай мовай. Вось адзін з самых даўніх беларускіх вершаў, уключаны Л. Зізаніем у яго «Грамматику словенску...»:

*Непрестанно называйте книжку*
*тую грамматику,*
*але наставницу добру*
*словенскому езыку.*
*Научает добре писати*
*и добре читати,*
*досконалым и певным быти,*
*а не в чом непастати.*
*Тую вы от спудей малым*
*коштом собе набывайте,*
*а великого ся розуму*
*и растрописти в ней научайте.*

***(Паводле В. Рагойшы)***

**Наступны, першы чэрвеньскі, нумар выйдзе 09.06.2006**

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by



Падпісана да друку: 18.05.2006.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0056609 ад 27.02. 2004 г.)
Заказ 744.
Тыраж 1480 асобнікаў.